Гродна
№22 (528),
8 снежня 2019

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ





# О МАРЫЯ, БЕЗ ГРАХУ ПЕРШАРОДНАГА ЗАЧАТАЯ!

**8 снежня Каталіцкі Касцёл адзначае ўрачыстасць Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі – адно з найважнейшых марыйных свят. Гэтая таямніца паказвае асаблівую ролю Маці Божай, а таксама сведчыць пра тое, што Бог дапамагае кожнаму чалавеку справіцца з пастаўленымі Ім задачамі.**

працяг на с. 3

# У Гродне я пакінуў частку свайго сэрца...



*Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч часта наведвае горад над Нёманам. Гэтым разам ён прыбыў у Гродна, каб падзякаваць Богу за 30-годдзе біскупскага служэння. З урачыстай нагоды іерарх цэлебраваў св. Імшы ў касцёлах св. Францішка Ксаверыя і Маці Божай Анёльскай, дзе некаторы час нёс паслугу пробашча. Менавіта на гэтых землях арцыбіскуп распачаў свой шлях па адраджэнні Касцёла ў Беларусі.*

працяг на с. 5

**“Са сваім «так» Марыя стала самай уплывовай жанчынай у гісторыі”. Папа Францішак**

# РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

**II НЯДЗЕЛЯ АДВЭНТУ**
**Мц 3, 1–12**

У тыя дні з'явіўся Ян Хрысціцель, які навучаў у Юдэйскай пустыні і казаў: "Пакайцеся, бо наблізілася Валадарства Нябеснае. Бо гэта той, пра каго сказаў прарок Ісая: «Голас таго, хто кліча ў пустыні: падрыхтуйце дарогу Пану, раўняйце сцежкі Яму»". Сам жа Ян меў адзенне з вярблюджай воўны і скураны пояс на бёдрах сваіх; а ежай яму была саранча і дзікі мёд. Тады Ерузалем і ўся Юдэя, і ўсе ваколіцы Ярдана выходзілі да Яго. І прымалі хрост ад яго ў рацэ Ярдан, вызнаючы свае грахі. Убачыўшы многіх фарысеяў і садукеяў, якія прыходзілі да яго хрысціцца, ён сказаў ім: "Племя змяінае, хто навучыў вас уцякаць ад надыходзячага гневу? Прынясіце ж годны плён пакаяння, і не думайце казаць у думках сваіх: «Наш айцец – Абрагам». Бо кажу вам, што Бог можа з камянёў гэтых узняць дзяцей Абрагаму. Ужо і сякера прыкладзена да карэння дрэваў; бо кожнае дрэва, што не дае добрага плоду, будзе ссечана і кінута ў агонь. Я хрышчу вас у вадзе для пакаяння, але той, хто ідзе за мною, мацнейшы за мяне, і я не варты несці сандалі Ягоныя. Ён будзе хрысціць вас Святым Духам і агнём. Лапата Ягоная ў руцэ Яго, і Ён ачысціць гумно сваё і збярэ пшаніцу сваю ў свіран, а мякіну спаліць агнём непагасным".

## НАВЯРНУЦЦА, КАБ АСЯГНУЦЬ ВАЛАДАРСТВА

Ян Хрысціцель абвяшчае набліжэнне Нябеснага Валадарства і заклікае вернікаў падрыхтаваць дарогу Пану, які надыходзіць. Не гаворыць ні пра двор, ні пра палац. Указвае толькі на Валадара – Пана, разам з якім гэтае Валадарства сыходзіць да людзей.

Сам Валадар праз сваё панаванне паказвае, якія правілы дзейнічаюць у Яго "сядзібе". Ён не ўзвышаецца над іншымі, а служыць падданым і, як нявольнік, мые ім ногі. Ён не жыве ў палацы, а знаходзіцца паміж людзей, скарачаючы дыстанцыю – кожны можа дакрануцца да Яго, сесці разам за стол. Езус нікога не асуджае і не адштурхоўвае, усіх прытуляе і аздараўляе. У Яго Валадарстве цэніцца спачуванне і міласэрнасць.

Каб увайсці ў Хрыстовае Валадарства, трэба падрыхтаваць дарогу. Адварочваючыся ад сваіх грахоў, разрываючы дамову з д'яблам, рыхтуем у сэрцы месца для Пана, каб Божы закон пусціў у ім карані і пачаў прыносіць добры плён. Тады прыпадабняемся да свайго Правіцеля, стараючыся паводзіць сябе так, каб ніхто не меў сумненняў, што належым да Яго Валадарства. Дзякуючы гэтаму пашыраецца панаванне Бога і набліжаецца дзень, калі Ён будзе панаваць ад мора да мора, ад ракі да ракі ажно да канцоў свету (параўн. Пс 72, 8).

Скіруйма думкі і сэрцы ўбок Таго, хто да нас прыходзіць. Прымем Яго і ўчынім Валадаром сваіх душ. Няхай Хрыстовае Валадарства запануе сярод нас!

**Ці гатовы я прыняць запрашэнне Езуса?**

**Ях рыхтуюся да сустрэчы з Тым, хто надыходзіць?**

**III НЯДЗЕЛЯ АДВЭНТУ**
**Мц 11, 2–11**

Калі Ян пачуў у вязніцы пра чыны Хрыста, паслаў вучняў сваіх спытаць Яго: "Ты той, які павінен прыйсці, ці нам чакаць іншага?". І сказаў ім Езус у адказ: "Ідзіце, абвясціце Яну тое, што чуеце і бачыце: сляпыя зноў бачаць і кульгавыя ходзяць, пракажоныя ачышчаюцца і глухія чуюць, памерлыя ўваскрасаюць і ўбогім абвяшчаецца Добрая Навіна. І шчаслівы той, хто не будзе сумнявацца ўва Мне". Калі ж яны пайшлі, Езус пачаў гаварыць народу пра Яна: "На што выйшлі вы ў пустыню глядзець? На трысціну, якую вецер хістае? На што ж вы хадзілі глядзець? На чалавека, апранутага ў мяккія шаты? Тыя, хто носіць мяккія шаты, знаходзяцца ў каралеўскіх дамах. На што вы хадзілі глядзець? На прарока? Так, кажу вам, і нават больш, чым на прарока. Гэта той, пра каго напісана: «Вось Я пасылаю анёла Майго перад Табою, які падрыхтуе Табе дарогу». Сапраўды кажу вам: сярод народжаных жанчынамі не з'явіўся большы за Яна Хрысціцеля. Але найменшы ў Нябесным Валадарстве – большы за яго".

## СВЕДЧЫЦЬ, КАБ ПАВЕРЫЛІ ІНШЫЯ

Поўная пакоры і адначасова вялікага захаплення пастава Яна Хрысціцеля годная захаплення. Ён адмаўляе, што нібы з'яўляецца Месіяй, што нібы можа быць вялікім прарокам Іллёй. Нават не згадваецца на тытул прарока, называючы сябе "голасам, таго, хто кліча ў пустыні: «Раўняйце дарогу Пану»" (параўн. Ян 1, 23). А гаворачы пра Месію сцвярджае, што "няварты развязаць раменьчык на сандалях Ягоных" (параўн. Ян 1, 27), г. зн. не прызнае сябе годным, каб быць Яго слугой. Аднак такая сціпласць не пазбаўляе Яна жадання, каб усе праз яго паверылі ў Збаўцу (праўн. Ян 1, 7).

Падобна як Ян Хрысціцель, мы таксама атрымалі Святога Духа, прымаючы сакраманты хросту і канфірмацыі. Атрымліваем Яго надалей, калі просім аб гэтым у малітве. 3-яя Асоба Святой Тройцы робіць нас здольнымі вызнаваць, што Езус ёсць Пан і Збаўца (праўн. Рым 10, 9), дадае адвагі, каб аддана далучаліся да справы евангелізацыі.

Мы не павінны гасіць у сабе гэтага Духа і абмяжоўвацца паставай выключна атрымальніка сродкаў збаўлення. Наадварот, кожны закліканы да адказнасці за збаўленне братоў і сясцёр. Няхай хтосьці паверыць праз нас у Хрыста! Паставім перад сабой такую задачу на сёлетні Адвэнт.

**Ці прымаю я актыўны ўдзел у евангелізацыі іншых?**

**Якім чынам сведчу аб Езусе Хрысце, Збаўцы свету?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Адказаць на Божы заклік

*Кожны год падчас Адвэнту перажываем урачыстасць Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі, становячыся перад тварам невымоўнай любові Бога да чалавека.*

У гэты святочны дзень мы запрошаны праслаўляць Стварыцеля за прадказаную спрадвеку Жанчыну, патомства якой сатрэ галаву д'яблу, – за Марыю. Маем шчасце жыць, паколькі Бог у Яе Сыне Езусе Хрысце вярнуў нам годнасць Яго дзяцей. Прынізіў сябе, прыняў "постаць слугі" (Флп 2, 7), стаў адным з нас, нашым братам, каб адарыць удзелам у сваім жыцці, у сваёй велічы і славе.

Маці Збаўцы, Святога над святымі, Пераможцы зла і граху была надзелена ласкай выключнага і непаўторнага паклікання. Таму асвечаная, абароненая ад першароднага граху – Беззаганная! У Ёй няма ні ценю граху – з'яўляецца адлюстраваннем бляску свайго Сына – Адкупіцеля. Найсвяцейшая Маці ўсведамляла сваю абранасць. Прызнавала, што Бог адкупіў Яе праз Сына: "Узрадаваўся дух мой у Богу, маім Збаўцы" (Лк 1, 47).

Усё гэта Марыя атрымала не дзякуючы ўласным заслугам, але дзеля Святога, дзеля Божага Мацярынства і, у рэшце рэшт, дзеля нас, таму што Божы Сын з Яе стаў Чалавекам для нашага збаўлення. Марыя здолела распазнаць пакліканне, якое з'яўляецца найбольшым дарам ад Пана. Адказала Стварыцелю "так" і засталася вернай Яму да канца.

Найсвяцейшая Панна Марыя вучыць нас адказваць на Божае пакліканне і Яго дары. Св. апостал Павел прыгадвае, што Усемагутны кожнага "блаславіў усялякім духоўным бласлаўленнем" (Эф 1, 3), адарыў ласкай па меры нашых заданняў, вызначаючы місіі на зямлі. Бог, заклікаючы да ўдзелу ў Яго жыцці, да збаўлення свету, да шчасця, ставіць кожнага чалавека ў пэўным месцы і часе, даручае адмысловую задачу і, разам з тым, дае здольнасць расчытаць яе, прыняць як Божую волю, што можа ашчаслівіць, як запрашэнне далучыцца да справы збаўлення, будавання Божага Валадарства.

Варта памятаць, наша пакліканне вырашаецца ў канкрэтным жыцці – у сям'і, у школе, на працы, у бальніцы... Там павінны нястомна старацца быць "святымі і бездакорнымі".

**Дарагія Чытачы!**

Будзьма ўпэўнены, што разам з пакліканнем атрымліваем ласкі для яго рэалізацыі. Калі Бог выбірае для нас пэўны шлях, то і адорвае моцай для выканання даручаных задач. А веліч нашага жыцця ў тым, каб перад яго канцом па прыкладзе Марыі маглі сказаць: "Пане, я заўсёды стараўся выконваць Тваю волю, не меў у жыцці важнейшай мэты".

## ЖЫЦЬ ЕВАНГЕЛЛЕМ
## ПЕРШЫ СІНОД ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# Апытальнік на падставе прац камісій I Сінода Гродзенскай дыяцэзіі

### Камісія па справах грамадскай дзейнасці і прававых адносін са свецкімі ўладамі

1. Што Вы ведаеце пра сацыяльнае вучэнне Касцёла?
2. Як разумееце выраз, што свецкія вернікі пакліканы да апостальскай місіі ў сучасным свеце?
3. Ці заўважаеце пасіўнасць свецкіх вернікаў адносна спраў Касцёла ў грамадскім жыцці? Як схіліць людзей да большай адказнасці за грамадскія справы Касцёла?
4. На чым павінна засноўвацца грамадская місія свецкіх католікаў у нашым, беларускім грамадстве?
5. Што патрабуе ўвагі ва ўзаемаадносінах паміж Касцёлам і дзяржавай?
6. Што ва ўзаемаадносінах паміж Касцёлам і дзяржавай Вы лічыце найбольш важным і патрэбным?

### Камісія па справах дабрачыннай паслугі

1. Ці ведаце Вы пра існаванне такой арганізацыі, як "Карытас"?
2. Ці прымалі калі-небудзь удзел у акцыях, зладжаных "Карытас" (збор сродкаў для патрабуючых, дапамога бедным і інш.)?
3. Ці ёсць аддзяленне (філіял) "Карытас" у Вашай парафіі?
4. Ці былі б Вы зацікаўлены ў супрацоўніцтве з "Карытас" і ў якой форме (напрыклад, фінансавая дапамога, праца, валанцёрства)?
5. Па Вашым меркаванні, хто сёння мае найбольшую патрэбу ў дапамозе "Карытас"?
6. Якія патрэбы маюць вернікі Вашай парафіі? Якім групам людзей першасна неабходна дабрачынная дапамога?

### Камісія па справах агульнага і спецыялізаванага душпастырства

1. Якія формы душпастырства існуюць у Вашай парафіі?
2. Ці лічыце адпаведным удзел святароў у гэтай дзейнасці?
3. Якую ролю свецкіх вернікаў бачыце ў пастаральнай дзейнасці ў Вашых парафіях?
4. Па Вашым меркаванні, ці ёсць патрэба стварэння Дыяцэзіяльнай школы па падрыхтоўцы аніматараў?
5. Як прапануеце актывізаваць удзел вернікаў у пастаральнай дзейнасці Касцёла?
6. Якія формы спецыяльнага душпастырства лічыце незадавальняючымі або якіх не хапае ў дыяцэзіі?
7. Якія прапановы можаце ўнесці ў агульнадыяцэзіяльныя душпастырскія праграмы?

### Камісія па справах літургічнага душпастырства і сакраментальнага жыцця

1. Чым для Вас з'яўляецца літургія? Што разумееце пад гэтым паняццем?
2. Ці існуюць у Вашых парафіях мясцовыя традыцыі, звязаныя з перажываннем нядзельнай Эўхарыстыі?
3. Ці варта цэлебраваць асобныя св. Імшы для дзяцей і моладзі?
4. Па Вашым меркаванні, што трэба зрабіць, каб павялічыць свядомасць вернікаў у неабходнасці рэгулярна прымаць удзел у нядзельнай св. Імшы і парафіяльных набажэнствах?
5. На Ваш погляд, якія трэба ўвесці змены для больш эфектыўнай падрыхтоўкі вернікаў да прыняцця сакрамантаў хросту, споведзі, Эўхарыстыі, канфірмацыі, сужэнства?
6. Ці згодныя Вы вярнуць звычай "вячыстых адарацый" у парафіях дыяцэзіі (паводле традыцыі, штодня на працягу кожнага года ў адной з парафій адбываецца бесперапынная эўхарыстычная адарацыя ў інтэнцыях Гродзенскай дыяцэзіі)?
7. Ці лічыце, што касцёлы і капліцы дыяцэзіі дастаткова адкрытыя для малітвы і адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту?
8. Ці варта стварыць Дыяцэзіяльны курс літургічнай фармацыі вернікаў?

### Падкамісія па справах касцёльнай музыкі і спеву

1. Як лічыце, на якім узроўні знаходзіцца касцёльны спеў і музыка ў Вашых парафіях?
2. Ці існуюць у Вашых парафіях касцёльныя хоры? Калі так, то якую маюць ступень падрыхтоўкі?
3. Ці бачыце патрэбу стварэння ў дыяцэзіі Школы па падрыхтоўцы арганістаў і касцёльных музыкантаў?
4. Як рэагуеце на правядзенне канцэртных выступленняў або іншых мерапрыемстваў у касцёлах і капліцах?
5. Якія можаце прапанаваць умовы для выступленняў свецкіх музыкантаў і спевакоў у касцёлах і капліцах дыяцэзіі?
6. Ці бачыце неабходнасць выдання новых спеўнікаў, і якой мове аддаеце перавагу (польскай, беларускай, рускай)?

***Прыняць удзел у сінадальнай працы можа кожны жадаючы. Запоўнены апытальнік неабходна даслаць у сакратарыят Сінода на паштовы адрас: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 4, Курыя, – або на электронную скрыню:*** *synodus.grodnensis@gmail.com.*

# О МАРЫЯ, БЕЗ ГРАХУ ПЕРШАРОДНАГА ЗАЧАТАЯ!

• працяг са с. 1

### ШТО ТАКОЕ БЕЗЗАГАННАЕ ЗАЧАЦЦЕ?

Беззаганнае зачацце Марыі выражае ісціну аб тым, што Бог захаваў дачку Яўхіма і Ганны ад першароднага граху, таму што павінна была ў будучым стаць Маці Яго Сына. Гэта выключны і адзіны ў гісторыі свету выпадак.

Нельга атаясамліваць беззаганнае зачацце Марыі з Яе нявінным зачаццем Езуса Хрыста ад Святога Духа. Божае ўмяшанне ў выпадку Найсвяцейшай Панны не заключалася ў замяшчэнні дзеяння бацькоў, але ў захаванні Яе душы ад наступстваў першароднага граху, дзякуючы чаму Яна дасягнула асаблівай блізкасці з Усемагутным, магла ва ўсім Яму даверыцца.

Аднак вольнасць ад граху і глыбокія адносіны з Богам не аддаляюць Марыю ад людзей. Наадварот, для кожнага Яна застаецца любячай, міласэрнай і прабачаючай Маці. Лучнасць Багародзіцы з чалавекам нельга ні з чым параўнаць. Тым, што нас раздзяляе, аддаляе адзін ад аднаго, з’яўляецца найперш эгаізм, які вырастае з граху. Марыя яго не мела.

Праўда пра беззаганнае зачацце з’яўляецца для ўсіх хрысціян таксама знакам, які дэманструе, як шмат усяго Бог можа здзейсніць у чалавеку, а таксама што кожнага Ён прагне прывесці да паўнаты чалавечнасці і святасці.

**Гісторыя ўстанаўлення свята Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі сягае VII стагоддзя. Афіцыйна яго абвясціў папа Пій IX у 1854 годзе.**

### НАВОШТА НАЙСВЯЦЕЙШАЯ ПАННА МАРЫЯ АТРЫМАЛА ГЭТЫ АСАБЛІВЫ ДАР І ЧАМУ МЫ Ў ГЭТА ВЕРЫМ?

#### ПАДКАЗКІ З ПСАЛМОЎ

У Святым Пісанні, а дакладна ў Кнізе Псалмоў, чытаем: “Бо Ты стварыў маё нутро і выткаў мяне ва ўлонні маёй маці” (Пс 139, 13). Адсюль можна зрабіць вывад, што Бог прымае непасрэдны ўдзел у стварэнні чалавека.

#### ПАДКАЗКІ З КНІГІ ПРЫПАВЕСЦЕЙ

У Біблії знаходзім апісанне ідэальнай маці. Яно было ўкладзена ў вусны цара Лемуіла і датычыла, хутчэй за ўсё, яго матулі: “Жанчыну дасканалую хто ж знойдзе? Цана яе большая, чым перлаў” (Прып 31, 10). Варта заўважыць, што спіс якасцей, пералічаных аўтарам гэтых слоў, мае духоўную і маральную прыроду.

**У Аўстрыі, Іспаніі, Партугаліі і Італіі ўрачыстасць Беззаганнага Зачацця з’яўляецца днём, вольным ад працы. Папа па традыцыі моліцца перад фігурай Марыі на Іспанскай плошчы ў Рыме (Італія).**

#### АНЁЛЬСКІЯ ПАДКАЗКІ

Падчас Звеставання Арханёл Габрыэль сказаў Марыі: “Вітай, поўная ласкі, Пан з Табою. Бласлаўлёная Ты паміж жанчынамі” (параўн. Лк 1, 28). Таму нельга назваць Беззаганную простай дзяўчынай! Яна поўная ласкі, вышэй за іншых жанчын.

#### СЫНОЎСКІЯ ПАДКАЗКІ

Сярод мноства дароў, якія Стварыцель мог ахвяраваць Марыі, дар Божага мацярынства самы дасканалы. Мацярынства з’яўляецца формай дасканаласці само па сабе. Аднак Божае мацярынства – яго вяршыня. Ніводзін дар не можа быць большым за гэты.

#### БОЖЫЯ ПАДКАЗКІ

Ці можа Сын уявіць сабе больш дасканалую Маці, чым Тая, якая, паводле Біблії, будзе бласлаўлёная паміж жанчынамі і якую будуць бласлаўляць усе пакаленні? Ці можа Айцец стварыць жанчыну больш выключную, чым Тая, якую прадказаў ужо ў Кнізе Быцця, абяцаючы, што Яна сатрэ галаву вужа? Ці можа Святы Дух ушанаваць жанчыну больш, чым вызначыўшы Яе сваёй Абранніцай? Усё гэта дазваляе сцвярджаць, што Маці Божая не мела першароднага граху.

#### ДАГМАТЫЧНЫЯ ПАДКАЗКІ

Адным з самых пераканаўчых аргументаў, якія пацвярджае догму аб Беззаганным Зачацці, з’яўляецца сказ: “Potuit, decuit, ergo fecit (з лац.: “Бог мог гэта зрабіць, трэба было гэта зрабіць, таму зрабіў гэта”). Безумоўна, калі б Марыя нарадзілася з першародным грахом, не адрознівалася б ад іншых жанчын.

### МЕДАЛЬЁН БЕЗЗАГАННАГА ЗАЧАЦЦЯ

Абвяшчэнню Касцёлам догмы аб Беззаганным Зачацці Найсвяцейшай Панны Марыі асаблівым чынам пасадзейнічала гісторыя цудатворнага медальёна. Ён з’яўляецца плёнам аб’яўленняў Маці Божай, што адбываліся ў ліпені, лістападзе і снежні 1830 года ў капліцы супольнасці сясцёр міласэрнасці пры Ру-дзю-Бак у Парыжы (Францыя). Багародзіца аб’явілася тады с. Кацярыне Лабурэ, даручаючы ёй, між іншым, місію выбіць медальён. Найсвяцейшая Панна Марыя сказала паслушніцы: “Тыя, хто носіць цудоўны медальён, атрымаюць разнастайныя ласкі, асабліва калі будуць насіць яго на шыі. Тых, хто ў Мяне верыць, адару мноствам ласкаў”. Першыя медальёны з’явіліся ў чэрвені 1832 года. Хутка яны сталі прыкладам асаблівага Божага ўздзеяння: у свеце прайшла хваля шматлікіх аздараўленняў і навяртанняў. Таму іх пачалі называць цудатворнымі.

Цудатворны медальён – разам з Ружанцам і кармэліцкім Шкаплерам – з’яўляецца адным з 3-ох прывілеяваных у Касцёле сакраменталіяў. На яго аверсе знаходзіцца відарыс Беззаганнай, якая ступае на галаву вужа, сімвалізуе перамогу над д’яблам. Аднак Марыя – гэта не толькі Шчыт, але і Пасрэдніца ўсіх Божых ласкаў. Іх сімвалізуюць прамяні, што выходзяць з рук Езусавай Маці. Пад нагамі Багародзіцы бачна дата 1830 – год Яе аб’яўленняў. Абрамленне медальёна аздабляюць словы малітвы, якую Беззаганная папрасіла адгаворваць: “О Марыя, без граху першароднага зачатая, маліся за нас, хто ў Цябе паратунку шукае”.

Пасярэдзіне рэверса знаходзіцца вялікая літара “М” – ініцыял імя Марыя. Над ім размешчаны крыж, які сімвалізуе муку і смерць Хрыста. Сімволіка спалучаных знакаў вельмі выразная – ля падножжа крыжа заўсёды стаіць Марыя, якая церпіць у поўнай камуніі са сваім Сынам за ўсё чалавецтва.

Вакол гэтых сімвалаў утвораны круг з 12-ці зорак, якія сімвалізуюць моц Марыі над усім стварэннем. Маці Божая атрымлівае ўсё, аб чым просіць Усемагутнага. Яна самы надзейны Праваднік да Неба. Пад ініцыяламі і крыжом бачым побач 2 сэрцы. Злева знаходзіцца Найсвяцейшае Сэрца Езуса, акружанае цярновай каронай. Яго рана крывавіць ад болю пакут – гэтаму спрыяюць людскія грахі. Справа – Беззаганнае Сэрца Марыі. Яно таксама церпіць, працятае мячом смуткі. Маці Божая згадзілася цярпець, удзельнічаючы ў Муцы Сына, каб мы маглі ў вечнасці цешыцца асалодай Пана.

*Падрыхтавала Кінга Красіцкая*

**У гэтым годзе ўрачыстасць перанесена на 9 снежня, паколькі 8 снежня прыпадае II Нядзеля Адвэнту.**

---

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

**Папа Францішак**



*Каб існавала добрая тэалогія, нельга забываць пра два яе неад’емныя элементы. Першы – гэта духоўнае жыццё: толькі ў пакорнай і пастаяннай малітве, у адкрытасці на Святога Духа можна зразумець і вытлумачыць Слова, а таксама споўніць волю Айца. Тэалогія нараджаецца і расце, калі стаім на каленях! Другое вымярэнне – гэта касцёльнае жыццё: адчуваць сябе ў Касцёле і разам з Касцёлам. [...] Тэалогія не робіцца індывідуалістамі, але ў супольнасці, каб несці добры смак Евангелля братам і сёстрам свайго часу, заўсёды з ласкавасцю і павагай.*

*Фрагмент прамовы на аўдыенцыі членаў Міжнароднай тэалагічнай камісіі ў Ватыкане, 29.11.2019*

**Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч**



*Адвэнт павінен стаць не толькі часам знешняй падрыхтоўкі да свят Божага Нараджэння, але і часам духоўнай адновы, што вядзе да сапраўднага міру, справядлівасці і святасці, да якой мы ўсе пакліканы. [...] Гэты літургічны перыяд вельмі кароткі, праходзіць хутка, і яго неабходна годна выкарыстаць. Усё наша жыццё – таксама Адвэнт, падчас якога рыхтуемся да паўнаты жыцця ў Богу. Гэты свет не здольны даць такога жыцця, цалкам задаволіць. Таму падчас Адвэнту мы павінны ўчыніць усё магчымае, каб Хрыстос пасяліўся ў нашых сэрцах, каб яны сталі Бэтлеемам нашага часу.*

*Фрагмент Пастырскага паслання на Адвэнт 2019*

**Кс. бп Аляксандр Кашкевіч**



*Мы распачынаем у Касцёле ў Беларусі душпастырскі год, прысвечаны св. Яну Паўлу II. Такім чынам хочам ушанаваць юбілей 100-годдзя нараджэння гэтага вялікага Папы, які прыпадае ў наступным годзе, а таксама пазнаёміцца бліжэй з яго навучаннем і багатай духоўнай спадчынай, якую пасля сябе пакінуў.*

*Папскі год мы будзем перажываць пад дэвізам: “Адчыніце дзверы Хрысту”. Гэтыя словы ўзяты з казання, якое св. Ян Павел II прамовіў у дзень інаўгурацыі пантыфікату. Сёння, з перспектывы часу, выразна відаць, якім дальнабачным і прарочым быў гэты заклік, наколькі істотна ён перамяніў наш кантынент і ўвесь свет. Хоць прайшло больш за 40 гадоў, па-ранейшаму застаецца актуальным. Таму няхай у перажыванні Адвэнту, які распачаўся, і ўсяго папскага года нам спадарожнічаюць словы, якія ў далёкім 1978 годзе прагучалі з плошчы св. Пятра ў Рыме: “Не бойцеся, адчыніце, адчыніце насцеж дзверы Хрысту... Езус ведае, што носіць унутры чалавек. Ён адзін гэта ведае!”.*

*Фрагмент Пастырскага ліста на I Нядзелю Адвэнту 2019*




◆ *Ватыканскі філатэлістычна-нумізматычны аддзел плануе выпусціць у наступным годзе спецыяльны нумізматычны камплект з нагоды 250-годдзя з дня нараджэння Людвіга ван Бетховена, у які ўвойдзе біметалічная 5-еўравая манета. У серыі "Мастацтва і вера" з'явіцца 10-еўравая медная манета, прысвечаная скульптуры "П'ета" Мікеланджэла Буанароці. Паштовыя маркі выдадуць, між іншым, з нагоды чарговага года пантыфікату папы Францішка, 100-годдзя з дня нараджэння св. Яна Паўла ІІ, 500-годдзя смерці Рафаэля Санці. Плануецца таксама выпусціць маркі, прысвечаныя еўрапейскім паштовым шляхам.*

◆ *У Аргенціне рэзка скарачаецца колькасць католікаў. Яны складаюць толькі 62,9% грамадства, што на 13% менш, чым 11 гадоў таму. Найгоршая сітуацыя ў гэтым плане ў Патагоніі і Буэнас-Айрэсе. У сталіцы краіны католікі складаюць толькі 56,4% жыхароў. Аргенцінцы, якія пакідаюць Касцёл, папаўняюць рады евангелічных супольнасцей. Да іх ужо належаць 15% грамадзян. Разам з тым, хутка расце колькасць асоб, якія не адчуваюць сябе звязанымі з рэлігіяй увогуле. Іх амаль 19%.*

◆ *Больш за 7 мільёнаў просьбаў, падзяк і малітваў даслалі да гэтага часу вернікі ў санктуарый Маці Божай Ружанцовай у Фаціме (Партугалія). Карэспандэнцыя збіраецца амаль ад пачатку існавання месца марыйнага культу. Лісты звычайна пакідаюць побач з капліцай, дзе 13 кастрычніка 1917 года скончыліся аб'яўленні, якія трывалі 6 месяцаў. Архіваваная "Пошта Маці Божай" пачала значна павялічвацца пасля 2000 года. Гэта звязана, між іншым, з распаўсюджаннем інтэрнэту, пры дапамозе якога ў партугальскі санктуарый таксама прыходзіць мноства лістоў.*

◆ *Справа духоўнага ўсынаўлення святароў запрашае распачаць малітву за выбранага ксяндза ў межах адвэнтавай пастановы. Можна таксама звярнуцца да арганізатараў акцыі праз інтэрнэт-старонку ddak.wordpress.com з просьбай "выдзеліць" святара, які просіць аб малітве. Ініцыятарамі акцыі сталі свецкія католікі. Яна паўстала, каб аб'яднаць людзей, якія прагнуць падтрымліваць душпастыраў у іх паслузе, найперш праз малітву, ахвяраванне духоўных ці фізічных цярпенняў, удзел у св. Імшы.*

◆ *Калядная батлейка, якая сёлета ўпрыгожвае ватыканскую плошчу св. Пятра, паходзіць са Скурэллэ, а елка – з высакагор'я Азіяга (Італія). Адметнасцю кампазіцыі батлейкі з'яўляецца задні план сцэны Раства, на якім змешчаны абломкі дрэў як сведкі ўрагану, што ўзрушыў італьянскую мясцовасць Трэнта ў мінулым годзе. Спрыяючы аднаўленню лесу, у Ватыкане высадзяць 40 маладых ялінак, ахвяраваных лясніцтвам пацярпелага рэгіёна.*

*vaticannews.va; credo.pro; niedziela.pl*

# Там, дзе выдумка саступае месца праўдзе

***Незалежна ад узросту, кожны хоча верыць у цуды. Гэтае жаданне родам з дзяцінства, калі нам, маленькім хлопчыкам і дзяўчынкам, распавядалі пра добрага сівога старца, які прыносіць на святы чаканыя падарункі. А калі сказаць, што гэта праўда? І любы з так моцна камерцыялізаваных сёння персанажаў – ці то Дзед Мароз, ці то Санта Клаус – паходзіць ад рэальнай фігуры – св. Мікалая, біскупа Міры (сёння Дамрэ, Турцыя)?***



### СВЯТЫ З ВЯЛІКАЙ ФАНТАЗІЯЙ У СПРАВАХ МІЛАСЭРНАСЦІ

Пра жыццё св. Мікалая, які жыў у ІІІ стагоддзі, захавалася мала гістарычных звестак і шмат легенд. Разам з тым, бясспрэчна адно: Каталіцкі Касцёл памятае яго як неверагодна добрага і міласэрнага чалавека, прызнаўшы годным выняцення да хвалы алтара.

Вядома, што св. Мікалай нарадзіўся ў Малой Азіі і быў адзіным дзіцём у заможнай хрысціянскай сям'і. З малых гадоў вылучаўся набожнасцю, пераняатай ад бацькоў. Быў чулы да няшчасцяў іншых людзей. Ахвотна дзяліўся з беднымі сваёй маёмасцю, удзяляў усякую дапамогу патрабуючым.

Ахвярнасць св. Мікалая пры жыцці і паспрыяла з'яўленню шматлікіх паданняў, звязаных з яго дзейнасцю. Адна з найбольш папулярных легенд распавядае, што ў хату ўбогага ўдаўца, які выгадаваў 3 дачкі і не мог выдаць іх замуж, бо не меў пасагу, біскуп Міры патаемна кінуў праз комін мяшочкі з грашыма. Гэта дазволіла старому ўладкаваць жыццё дзяўчат, якія ўрэшце шчасліва выйшлі замуж за сваіх абраннікаў.

Узгадваюцца і іншыя, не менш цікавыя выпадкі. Калі ў Міры лютавала эпідэмія, св. Мікалай служыў хворым, рызыкуючы ўласным жыццём.

Захавалася гісторыя, як біскуп выратаваў ад смяротнага прысуду 3-ох юнакоў, несправядліва пакараных за дробнае злачынства, або як дзякуючы сваёй гарачай малітве пазбавіў ад непазбежнага патаплення рыбакоў, што трапілі ў вялікі шторм. У сувязі з гэтым яго абралі апекуном усіх, хто працуе на вадзе. Дарэчы, некалькі гадоў таму прадстаўнікі Каталіцкага Касцёла, Праваслаўнай і Пратэстанцкай Цэркваў з 16-ці міжземнаморскіх краін прапанавалі абвясціць св. Мікалая заступнікам гэтага акваторыя.

### СПАДЧЫНА ДОБРАГА БІСКУПА

Звычай узаемнага адорвання прэзентамі ва ўспамін св. Мікалая або напярэдадні Раства ўзнік яшчэ ў сярэдневеччы. Ён бярэ пачатак з будавання дзецьмі "чоўнаў св. Мікалая", куды той павінен быў пакласці для іх падарункі. З цягам часу на змену чоўнам прыйшлі боты, шкарпэткі або любая адмысловая ўпакоўка. Разам з тым, у XVIII стагоддзі ўзнікла ініцыятыва ўдзяляць стыпендыі і гранты моладзі з бедных сем'яў, якая навучалася ў школах і універсітэтах, што носяць імя св. Мікалая.

Яшчэ адзін дар ад святога – тое, што ён стаў тым самым духоўным заступнікам, які аб'ядноўвае ўсходніх і заходніх хрысціян, бо ўшаноўваецца як Каталіцкім Касцёлам, так і Праваслаўнай Царквой. Менавіта пры яго труне ў 1908 годзе праходзіў сінод, скліканы папам Урбанам ІІ. Яго мэтай было знясенне ўсялякіх падзелаў у хрысціянстве. Асаблівым нябесным патранажам ад біскупа Міры цешацца, між іншым, падарожныя, дзеці, дзяўчыны на выданні, пекары, а таксама вязні.

### З ПРОСЬБАЙ НЕ ПРА МАТЭРЫЯЛЬНАЕ, АЛЕ ПРА ДУХОЎНАЕ

Св. Мікалай з'яўляецца адным з самых распазнавальных святых у свеце, бо здолеў заваяваць сэрцы шматлікіх вернікаў на ўсіх кантынентах дзякуючы шчыраму прыкладу любові да бліжняга. І няхай сёння ён "хаваецца" пад рознымі імёнамі, варта не падлягаць уплыву камерцыі і павярхоўнасці, але натхніцца на добрыя ўчынкі. Трэба памятаць, што сэнс усялякай дзейнасці св. Мікалая палягаў, перш за ўсё, на адорванні бліжніх. Ён не назапашваў, але аддаваў, дзяліўся ўсім, што меў. І меншае, што мы можам зрабіць, – пераняць яго прыклад хаця б падчас перажывання Адвэнту.

### МАЛІТВА ДА СВ. МІКАЛАЯ

**Хвалебны св. Мікалай, асаблівы мой ахоўнік! Зірні на мяне спагадлівым позіркам з таго нябеснага святла, у якім насычаешся сузіраннем Бога. Выпрасі ў Пана ласку і належную дапамогу ў маіх сённяшніх патрэбах – як духоўных, так і зямных – а асабліва ласку...** *(называем інтэнцыю, у якой хочам маліцца)*, **калі яна дапаможа мне асягнуць вечнае збаўленне. Памятай таксама, слаўны св. Біскуп, найвышэйшага пастыра нашага, Папу, святы Касцёл і наш набожны горад. Накіруй на дарогу збаўлення ўсіх, хто вядзе паглыбленае ў грахі жыццё, хто асліплены няўменнем, памылкамі і ерассю. Суцеш засмучаных, паклапаціся аб патрабуючых, умацуй тых, хто сумняваецца, падтрымай прыгнечаных, прынясі палёгку хворым і ўчыні, каб усе спазналі магутную апеку Тваю і найвышэйшага даўцы ўсяго дабра. Амэн.**

*Ангеліна Марцішэўская*

# Чарговы Адвэнт, або навошта ўвесь час "адно і тое ж"?!

У касцёле неаднойчы даводзілася чуць, што Адвэнт з'яўляецца часам радаснага чакання. Тольні ці сапраўды радаснага? З упэўненасцю магу сцвердзіць, што для некаторых гэта вельмі стомны час, таму што трэба ўзяць нейкую пастанову, прыступіць да споведзі, наладзіць адносіны з блізкімі... А ў дадатку яшчэ святочныя пакупкі, падарункі, прыбіранне, гатаванне... І што самае цікавае, часта тое ж самае паўтараецца штогод. Таму нічога дзіўнага, што перыяд чакання прыходу Дзіцятка Езус для сучаснага чалавека, якому заўсёды не хапае часу і якому столькі ўсяго валіцца на галаву, можа быць нелюбімым і прыгнятальным.

Аднак як хрысціяне мы павінны ўсведамляць, што самым важным у Адвэнце з'яўляецца яго пасланне, якое прыгадвае пра бязмежную любоў Бога да чалавека. У Евангеллі паводле св. Яна чытаем: "Бо так палюбіў Бог свет, што аддаў Сына свайго Адзінароднага, каб кожны, хто верыць у Яго, не загінуў, але меў жыццё вечнае" (Ян 3, 16). Ці часта мы ўспамінаем аб гэтай любові, дзеля якой Езус стаў чалавекам, нарадзіўшыся ў бедным хлеўчыку? Ці часта гаворым тым, каго любім, наколькі яны важныя для нас? Ці хочам, каб нам таксама гаварылі аб гэтым як мага часцей? Канешне! Адвэнт павінен у чарговы раз прыгадаць, дапамагчы ўсвядоміць, адкрыць адно з найпрыгажэйшых сведчанняў аб любові – любові Бога да чалавека, да мяне. Вось для гэтага патрэбна "адно і тое ж"! Як закаханыя нястомна кажуць адзін аднаму аб любові, так праз чарговае перажыванне праўды аб нараджэнні Хрыста Бог прыгадвае, што любіць нас – проста так, бескарысліва.

Аднак гэта не заўсёды даецца лёгка. Часам каб сказаць камусьці пра свае пачуцці, спачатку трэба падрыхтаваць гэтую асобу, паколькі яе можа ўразіць наша прызнанне. І нават вельмі! Праз Адвэнт Касцёл у чарговы раз прагне падрыхтаваць нас да праўды пра Божую любоў – найперш унутрана, але і знешне таксама. Прыгадвае аб ёй кожны год, каб заўсёды памяталі пра гэта. Канешне, можна было б святкаваць Божае Нараджэнне раз у жыцці і ўжо ніколі не вяртацца да яго. Але ж дзень нараджэння – свой ці кагосьці блізкага – адзначаем штогод, праўда?

Некаторыя вернікі ў штодзённай мітусні згубілі ўсведамленне Хрыстовай любові. Адвэнт існуе для таго, каб нагадаць, што мы Божыя дзеці. Ён павінен пераканаць людзей падрыхтаваць не толькі дом і святочны стол, але і сэрцы, сумленні і ўсю сваю штодзённасць, каб глыбока перажыць ісціну аб бескарыслівай любові Бога да чалавека.

І як дзень саступае месца ночы, як змяняюцца поры года, як Зямля круціцца вакол сваёй восі і вакол Сонца, так Адвэнт паўтараецца кожны год, каб духоўна фарміраваць, змяняць нашы адносіны да пэўных спраў, змяняць наша сэрца, душу, рыхтуючы да перажывання праўды веры аб Божым Нараджэнні і адначасова да канчатковага прыйсця Хрыста ў канцы свету. Таму варта выкарыстаць гэты час як мага лепш, каб не змарнаваць і пазней не шкадаваць, бо не вернецца. Як веруючыя людзі мы павінны таксама памятаць, што далей будзе лепш, бо нас чакае штосьці, чаго "ні вока не бачыла, ні вуха не чула, ні сэрца чалавечае не змагло пазнаць" (1 Кар 2, 9). І ўсё гэта мусіць напаўняць сэрца надзеяй і радасцю.

Менавіта для гэта існуе чарговы Адвэнт, чарговае Божае Нараджэнне. Для гэтага ўвесь час адбываецца "адно і тое ж". Каб прыгадалі сабе – можа, яшчэ не зараз, можа, праз некалькі гадоў – аб тым, што найважнейшае: Бог мяне любіць!

*Кс. Ян Раманоўскі*

# У Гродне я пакінуў частку свайго сэрца...



● працяг са с. 1

*– Ваша Эксцэленцыя, горад Гродна, напэўна, быў і застаецца ў Вашым сэрцы. У якія часы і ў якія месцы часцей за ўсё вяртаецеся думкамі?*

– Гродна – горад маёй маладосці. Тут я скончыў школу, паступіў у педагагічны інстытут (*сёння Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт ім. Янкі Купалы – **заўв. рэд.***) на фізіка-матэматычны факультэт. Некаторы час працаваў у Абласным праектным інстытуце. Гэта таксама для мяне час трывання ў веры ў эпоху атэізму, калі рэлігію называлі опіумам для народа. З-за наведвання касцёла быў вымушаны пакінуць месца вучобы. Жорсткае збурэнне старэйшага гродзенскага касцёла – Фары Вітаўта – зрабіла вялікі шнар у маім сэрцы, які не загойваецца да сёння.

Гродна – горад, з якога я паехаў у далёкі свет. Спачатку на вучобу ў Ленінградскі палітэхнічны інстытут, потым у Вільнюс на працу ў якасці інжынера. Затым я паступіў у Каўнаскую духоўную семінарыю, служыў святаром у Літве. А ў 1988 годзе вярнуўся ў горад над Нёманам – быў прызначаны пробашчам парафій св. Францішка Ксаверыя і Маці Божай Анёльскай.

У гэтай якасці мяне застала біскупская намінацыя, якая адбылася 25 ліпеня 1989 года. І хоць я служыў біскупам усім католікам Беларусі, тым не менш, найчасцей прабываў у Гродне, дзе знаходзілася курыя. Адсюль у 1991 годзе выехаў у Расію. Гэта быў складаны і вельмі цікавы час, калі старая сістэма ламалася, а новай яшчэ не было. Стаяла задача – адрадзіць Касцёл! За паўтары гады служэння біскупам у Беларусі ўдалося вярнуць каля 100 раней канфіскаваных святынь, выдаць 50 тысяч асобнікаў Парадку св. Імшы і 90 тысяч кароткага Катэхізіса на беларускай мове, атрымаць дазвол ад улад на служэнне святароў з-за мяжы і заснаванне Гродзенскай духоўнай семінарыі.

У Гродне я пакінуў частку свайго сэрца...

*– Ці хочацца парой прайсці сцежкамі памяці і ўзгадаць мінулае?*

– Яшчэ як хочацца! Думкамі, а калі ёсць магчымасць, то і фізічна вяртаюся ў гэты гістарычны горад. Сюды найчасцей прыязджаю службова. Цэлебрую св. Імшы, прымаю ўдзел у сустрэчах моладзі і парафіядах, у канферэнцыях, а таксама ў семінарыйных урачыстасцях.

Не забываюся таксама наведаць сваіх сяброў біскупаў і святароў. Стараюся пры магчымасці пашпацыраваць па вуліцах старога горада, найчасцей ад катэдры да ўніверсітэта. Часамі іду вуліцай Кірава, дзе раней была школа, у якой я вучыўся. Наведваю месца знішчанай Фары Вітаўта. Накіроўваюся да замка. З высокай гары люблю глядзець на Нёман і францысканскі касцёл, а з іншага боку ракі – на аднаўлены шырокі мост, бернардынскі касцёл і катэдру. Калі ёсць час, плаваю ў басейне. Як быў маладзейшы, хадзіў на стадыён пабегаць.

*– Чаго, на Вашу думку, не хапае ў горадзе над Нёманам?*

– Не хапае такога гістарычнага цэнтра, які фарміраваўся цягам гісторыі. Збурэнне Фары Вітаўта, пабудова абласнога драмтэатра на месцы касцёла і кляштара бернардынак і апошняя рэканструкцыя Савецкай плошчы сталі прычынай таго, што горад страціў свой гістарычны цэнтр. Безадказнае стаўленне тагачасных улад павінна быць перасцярогай для сучасных архітэктараў і рэстаўратараў – гісторыю нельга змяняць! Перадусім, гэта неабходна мець на ўвазе пры аднаўленні старадаўніх аб'ектаў, бо турысты едуць глядзець не на новабудоўлі, а на гістарычныя збудаванні.

На маю думку, горад Гродна з вялікай колькасцю католікаў і багатымі каталіцкімі традыцыямі даўно заслугоўвае таго, каб у ім быў устаноўлены помнік св. Яну Паўлу ІІ, які адрадзіў структуры Касцёла ў Беларусі. Ён мог бы з'явіцца, напрыклад, на Бернардынскім узгорку...

А яшчэ я заўважыў, што апошнім часам у горадзе адкрылася шмат рэстаранаў і кафэ. Але, на мой погляд, усё яшчэ замала спартыўных аб'ектаў.

*– У сваёй пастырскай дзейнасці Вы робіце стаўку на моладзь – у такім выпадку немалаважна быць з маладымі людзьмі на адной хвалі. Як ловіце гэтую хвалю? Што Вам дапамагае адчуваць сучаснасць такой, якой яна ёсць у дадзены момант?*

– Быць з моладдзю на адной хвалі – азначае ўвайсці ў яе жыццё, выслухаць, зразумець. Неабходна ведаць, чым жыве сучаснае пакаленне і што яго турбуе. Пры гэтым трэба адмовіцца ад манаполіі на праўду! Усе мы памыляемся, не памыляецца толькі Бог. Але ў той самы час пастыр павінен прадстаўляць нязменную Божую праўду, пры чым зразумелай для моладзі мовай, каб не адчужаць яе, але падбадзёрваць. У сувязі з гэтым папа Францішак заклікае духавенства суправаджаць моладзь з мэтай дапамагчы ёй у жыццёвых цяжкасцях.

Асабіста я вельмі люблю сустракацца з маладымі людзьмі, размаўляць з імі і дзяліцца парадамі, як не згубіцца ў вадавароце жыцця. Няпраўда, што моладзь не клапоціцца пра сваё шчасце. Клапоціцца, толькі часта не ведае, дзе яго знайсці. Сучасны свет перапоўнены абяцаннямі дасягнення імгненнага шчасця, нярэдка націскам камп'ютарнай мышкі, што з'яўляецца падманам і ілюзіяй. Часцей за ўсё маецца на ўвазе ўяўнае шчасце, якое лопаецца, як мыльная бурбалка, і малады чалавек застаецца ля разбітага карыта. Насамрэч, каб дасягнуць сапраўднага шчасця, неабходна нямала ахвярных высілкаў. Нездарма людзі гавораць: "Пад ляжачы камень вада не цячэ".

*– Ваш біскупскі дэвіз гучыць як "Quis ut Deus" ("Хто, калі не Бог"). Чым кіраваліся, калі абіралі гэтыя словы лозунгам жыцця?*

– Я быў прызначаны біскупам у часы, калі было бачна, што атэістычная ідэалогія вычарпала сябе. Нягледзячы на тое, што яна прынесла шмат бед, людзі не зламаліся. Нашы дзядулі і бабулі, а таксама бацькі перадавалі веру маладому пакаленню. Таму выбіраючы дэвізам біскупскага служэння словы "Qius ut Dues", я хацеў ушанаваць старэйшае пакаленне, якое заўсёды на першае месца ставіла Бога; і таксама паказаць, што мая мэта як біскупа – абвяшчаць Бога і несці Яго людзям. Не апошнюю ролю сыграў і той факт, што св. арханёл Міхал з'яўляецца апекуном Беларусі. А "Qius ut Dues" на габрэйскай мове азначае "Michael" ("Міхал").

*– Адначасова з тым з Вашых вуснаў можна пачуць выраз "Хто, як не мы; калі, як не сёння"...*

– Гэта заданне, якое стаіць перад намі ў абароне чысціні веры і хрысціянскай традыцыі. Мы маем быць не "папяровымі" вернікамі, але рэальнымі. Для гэтага неабходна прадстаўляць сабой сапраўдных сведкаў хрысціянства. Недапушчальна бяздзейнасць і абыякава глядзець на працэсы секулярызацыі і маральнага рэлятывізму – лёс хрысціянства ў нашых руках. Хто, як не мы, павінны яго бараніць, і калі, як не сёння, бо заўтра ўжо можа быць запозна.

## Некалькі правакацыйных пытанняў арцыбіскупу

*Ці даводзілася Вам ісці супраць усіх (але вынік таго каштаваў)?*

Мяркую, што словы "супраць усіх" маюць умоўнае значэнне, бо заўсёды знойдзецца той, хто калі і не падтрымае, то, прынамсі, будзе талераваць.

Сітуацый кшталту "ісці супраць усіх" было нямала. Калі я абвясціў намер заснаваць семінарыю ў Гродне, улады былі адназначна супраць: "Семінарыя ёсць у Рызе, пасылайце кандыдатаў туды". Аднак было бачна, што Савецкі Саюз дажывае апошнія дні. Неўзабаве Латвія стане незалежнай краінай, і не будзе ніякай магчымасці для падрыхтоўкі святароў там. Маю задуму лічыла авантурай абсалютная большасць людзей, у тым ліку некаторыя святары. Няма прафесараў, матэрыяльнай базы, досведу, а біскуп надумаўся заснаваць семінарыю? Трэба было ламаць супраціў і ісці наперад. Але, як паказала жыццё, аўчынка была вартая вырабу.

Падобнай была сітуацыя ў Расіі. Практычна не было ніякай магчымасці вярнуць касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Маскве, які цяпер з'яўляецца велічнай і прыгожай катэдрай. Неймаверным высілкам, калі ўсе былі супраць, удалося вярнуць гістарычны будынак семінарыі ў Санкт-Пецярбургу.

*Пачуццё гумару або дзелавітасць, сур'ёзнасць? Інакш кажучы, ці ёсць у рэлігійным жыцці месца для жартаў?*

Люблю жарты, у іх утоена жыццёвая мудрасць. Ці можна іх выкарыстоўваць для абвяшчэння праўды веры? Людзі далёка не заўсёды памятаюць мудрыя казанні, а вось жарты запамінаюцца надоўга. Калі дзякуючы ім можна падкрэсліць маральны закон і ўмацаваць веру, то, лічу, імі можна карыстацца. Прыкладам могуць служыць шматлікія святыя, і асабліва св. Ян Павел ІІ, а таксама папа Францішак. Дарэчы, у Евангеллі мы бачым, як Езус для абвяшчэння Божага Валадарства выкарыстоўваў прыклады са штодзённага жыцця.

*Калі б была нагода, Вы маглі аб нечым паспрачацца з Папам?*

А чаму б не? У сэнсе канструктыўнага дыялогу! Мне вельмі спадабалася, калі на Сінодзе біскупаў пра сям'ю папа Францішак заклікаў удзельнікаў быць адкрытымі, казаць усё, што думаюць. І так было. Як гаворыцца, у спрэчцы нараджаецца ісціна.

*Працягніце сказ: "Калі б мой лёс склаўся па-іншаму, хутчэй за ўсё я...".*

... магчыма, быў бы паспяховым інжынерам або нават вучоным. Яшчэ перад семінарыяй я разам з групай інжынераў атрымаў патэнт на Высокахутнасны шліфавальны станок асаблівай дакладнасці для Волжскага аўтазавода. Але Бог суправаджае мяне і ў гэтай галіне на касцёльнай ніве, бо дазваляе быць інжынерам у справах адбудовы Касцёла пасля трох пакаленняў ганення і аднаўлення яго ў новых абставінах: з аднаго боку, свабоды веравызнання, а з іншага – у абставінах узрастаючай рэлігійнай абыякавасці.

*Перад Вамі тры мяхі. У адным – здароўе, у другім – розум, а ў трэцім – час. Які выбераце?*

Час. Але не той, які на грэчаскай мове называецца "хронас" і які адлічвае мінулае, але "кайрос" – час ласкі.

*Ангеліна Пакачайла*







### Перавыдадзена кніга "Малітвы вернікаў"

***2-ое выданне, выпраўленае і дапоўненае, пабачыла свет у выдавецтве "Pro Christo".***

*Літургічная кніга Рымска-каталіцкага Касцёла змяшчае заклікі малітвы вернікаў, якая чытаецца падчас св. Імшы ў розныя перыяды літургічнага года, а таксама ў розныя ўспаміны, святы і ўрачыстасці. Адметнасцю новага выдання з'яўляюцца ўступы да літургіі дня пры цэлебрацыі св. Імшы ў гонар святых. У яго дададзены таксама святы і дні памяці святых, уключаныя ў Агульны рымскі каляндар і каляндар дыяцэзій у Беларусі.*

*Кніга адрасавана як парафіяльным, так і манаскім супольнасцям.*




### Абортныя лагеры ў Германіі

***Падчас ІІ Сусветнай вайны функцыянаваў цэнтральны абортны лагер для Вестфаліі.***

*Інфармацыю аб гэтым падалі журналісты, якія дабраліся да шакіруючых архіваў. Як вынікае з іх аналізу, у 1943–1945 гадах у мясцовасці Вальтроп-Хольтхаўзэн дзейнічаў лагер, у якім пад гнётам масава здзяйснялі аборты. Туды траплялі цяжарныя жанчыны, якія знаходзіліся ў месцах прымусовай працы.*

*Вядома, што на тэрыторыі абортнага лагера загінула каля 500 дзяцей. Аднак многія жанчыны здолелі нарадзіць. У такіх выпадках немаўлят забіралі ў матуль, каб тыя маглі хутчэй вярнуцца да працы.*




### Служыць дабру нават пасля смерці

***У Любліне (Польшча) адбылося пахаванне асоб, якія пры жыцці натарыяльным актам аддалі свае цела для даследаванняў супрацоўнікаў і студэнтаў медыцынскага ўніверсітэта.***

*На люблінскіх могілках на Майданку ў магілу склалі урны з прахам 21-го донара. Для 18-ці з іх была падрыхтавана пахавальная св. Імша, астатнюю групу пахавалі падчас свецкай цырымоніі.*

*Пахаванне было 4-ай падзеяй такога тыпу з часу запуску праграмы донарства ў Люблінскім медыцынскім універсітэце. Яе мэтай з'яўляецца пошук людзей, якія свядома ахвяруюць сваё цела пасля смерці для навуковых даследаванняў і дыдактычных мэт, вынікаючых з навучальных праграм і паслядыпломнай адукацыі, якая праходзіць ва ўніверсітэце.*



*Што такое духоўная Камунія?*

*Праз сваю бязмежную любоў Пан Езус назаўсёды застаўся сярод нас у Эўхарыстыі і прагне, каб кожны прымаў Яго як спажытак, што дае вечнае жыццё. Ахвярны характар сакраманту раскрываецца ў саміх словах устанаўлення: "Гэта ёсць Цела Маё, якое за вас будзе выдана" і "Гэты келіх ёсць новым запаветам у Крыві Маёй, якая за вас будзе праліта" (Лк 22, 19–20). Ахвяра крыжа і ахвяра Эўхарыстыі – гэта адна ахвяра. Адным з'яўляюцца ахвяра і ахвярадаўца, адрозніваюцца толькі спосабы ахвярапрынашэння: крывавы – на крыжы, некрывавы – у Эўхарыстыі.*

*Аднак удзел у Найсвяцейшай Ахвяры не заўсёды магчымы. Прычынамі могуць быць адсутнасць святара, вялікая адлегласць да касцёла, хвароба альбо ўнутраны стан душы. Выйсцем з падобных сітуацый з'яўляецца прыняцце духоўнай Камуніі.*

*Узнікненне практыкі духоўнай Камуніі звязана з фактам усталявання рэдкага прыняцця св. Камуніі пад выглядам Хлеба і Віна. У Сярэднявеччы існавала традыцыя прыступаць да св. Камуніі толькі на Вялікдзень, чаму спрыяла пастанова IV Латэранскага сабору. Ад Трыдэнцкага сабору рэкамендавалася прымаць духоўную Камунію, што найчасцей практыкавалася ў манаскіх супольнасцях, але не толькі.*

*Лічылася, што "той, хто бачыў, той спажыў". Малячыся, вернікі прымалі Камунію – гэта адбывалася ў той момант, калі святар узносіў Гостыю ўгору, такім чынам паказваючы яе ўсім вернікам. Практыка духоўнай Камуніі стала паспяхова ўкараняцца ў Касцёле на працягу стагоддзяў. Карыстаць з яе раілі многія настаўнікі духоўнага жыцця.*

*Духоўная Камунія – гэта лучнасць чалавека з Эўхарыстычным Езусам, якая рэалізуецца праз прагненне прыняцця сакраментальнай Камуніі. Адначасова такое прагненне грунтуецца на веры, ажыўленай праз любоў.*

*Галоўнымі элементамі духоўнай Камуніі з'яўляюцца:*

***1. Моцнае прагненне, якое вынікае з жывой веры;***

***2. Прагненне сакраманту Эўхарыстыі, які прыносіць збаўленне;***

***3. Прагненне, якое вынікае з любові да Хрыста;***

***4. Прагненне выразнае і свядомае.***

*Духоўная Камунія, арыентаваная на сакраментальную Камунію, вядзе да яе і з ёю цесна злучана. Плён духоўнай Камуніі з'яўляецца, па сутнасці, тым жа, што і ў сакраментальнай Камуніі (эўхарыстычнай) – узрастанне асвячальнай ласкі, любові, чыстасці жыцця і еднасці з Хрыстом.*

*Прыняцце духоўнай Камуніі з'яўляецца вялікім рэлігійным шансам не толькі для тых людзей, якія па знешніх прычынах не могуць прыступіць да сакраментальнай Камуніі, але таксама для тых, якія жывуць без касцёльнага шлюбу, але шчыра перажываюць за свае грахі і хочуць паяднацца з Хрыстом.*

*Кс. Іван Кароткін*

***Паводле catholicnews.by***



*З Богам праз штодзённасць*

# Пра жаданні святочныя і не толькі

Жаданні павінны здзяйсняцца. Радасць, якая напаўняе сэрца, калі спаўняецца штосьці запаветнае, сведчыць аб гэтым вельмі яскрава. Яна трывае доўга, асабліва калі збываюцца жаданні глыбокія і невыказныя.

Тэма чалавечых жаданняў такая багатая і шматузроўневая, што прыйдзецца многае абмінуць, каб сказаць хоць нешта канкрэтнае. Сёння нас будзе цікавіць сувязь таго, чаго прагнем, з Божай воляй. Добра было б на самым пачатку глянуць на сваё жыццё і адзначыць, як змяняліся жаданні з часам, што сталася з дзіцячымі марамі, як досвед няшчасця або, напрыклад, бацькоўства ці іншай формы адказнасці паўплывалі на нас.

Сапраўдныя жаданні з'яўляюцца голасам Бога ў сэрцы чалавека. Калі давяраем Пану, то можам разам з Ім зазірнуць унутр сябе, бо менавіта там жыве прагненне любові, спакою, свабоды, вечнага жыцця, моцнага сяброўства – са сваім Стварыцелем, у першую чаргу. І хоць далёка не для ўсіх глыбокіх жаданняў знойдуцца адпаведныя словы, усе яны добрыя, бо паходзяць ад Бога. Яны паказваюць, хто мы ёсць, кім можам стаць. Найлепш гэта бачна ў той час, калі чалавек выбірае, кім стаць. Так жаданне служыць людзям або больш грунтоўна вывучаць штосьці дапамагаюць адкрыць сваё пакліканне, будучую прафесію.

Прагненні сэрца павінны збывацца, калі гэта Божая воля, хіба не? Цікавае пытанне. За сваё жыццё, напэўна, не раз даводзілася пачуць, што трэба і самому штосьці зрабіць дзеля ажыццяўлення мар. Аднак гэтае "штосьці" не працуе, іначай адкуль жа балючае пачуццё нязДзейсненасці, якое ўсё часцей ахоплівае людзей пад святы? Што ж, можа, і праз смутак Бог хоча нешта сказаць чалавеку…

Магчыма, мы не чуем сваіх жаданняў на самой справе? Змагаемся за тое, што "трэба, каб было"? Вось у малітве "Ойча наш", навучаныя Панам Езусам, просім аб вялікіх дарах: быць Божымі дзецьмі, атрымаць хлеб і хлеб, міласэрнае прабачэнне, свабоду ад крыўды на іншых, выратаванне ад спакус і зла… Просім, атрымліваем – і што далей?

Пад Ерузалемам Езус распавёў прыпавесць пра дзесяць слуг, якім гаспадар даручыў немалыя грошы, каб пусцілі іх у абарот. Некаторым удалося памножыць багацце, а хтосьці не стаў нават спрабаваць і намагацца, бо міну (1 кг срэбра або золата) "трымаў у хустцы". Якое ўсё ж незвычайнае параўнанне выбірае Хрыстос – Божыя дары з грашыма… Паслухмяны слуга павінен быў выйсці з маёнтка, знайсці, куды інвеставаць сродкі. Яму давялося рызыкнуць і давяраць, працаваць, выпрабоўваць розныя шляхі, трымаць вочы і вушы адкрытымі, каб не прапусціць зручны момант. А таксама мусіў зведаць горыч паражэнняў і страты, але, падлічыўшы прыбытак, ён радаваўся і з удзячнасцю ўзгадваў пройдзены шлях ды людзей, якія спадарожнічалі на шляху. Які рух! Якая праца!

І вось, напрыклад, вера як дар, які мы атрымліваем. Што з ім рабіць, каб выканаць волю Дарыцеля? Па-першае, спытаемся ў сябе: ці вера з'яўляецца глыбокім жаданнем сэрца? Часам варта задацца такім пытаннем. Менавіта энергія жадання прыводзіць у рух чалавека. "Верыць – значыць верыць Яму, верыць, што праўдай ёсць тое, што Ён нас любіць, што жыве, што здольны ўваходзіць патаемна, што нас не пакідае, што перамяняе зло ў дабро сваёй моцай і бясконцай крэатыўнасцю. Значыць верыць, што Ён як Пераможца ідзе праз гісторыю, а разам з Ім ідуць Яго «пакліканыя, выбраныя і верныя» (Ап 17, 14)", – піша папа Францішак у адгартацыі "Evangelii gaudium".

Мы молімся аб дары веры і атрымліваем яго. Заклік "паглыбляйце веру" гучыць інакш, чым "зарабляйце" з прыпавесці Езуса. "Памнажай і развівай" напісана аб Божых дарах. Па сутнасці гаворка пра тое ж самае – рух і праца. Але галоўнае, што яшчэ не прагучала – мэта. Памятаем, што мы пакліканыя (і хочам) набліжацца да Бога, пазнаваць і любіць Яго ўсё больш. "Чалавек, калі губляе асноўны напрамак, які яднае яго жыццё, губляецца ў разнастайнасці сваіх жаданняў. Баронячыся ад чакання часу абяцання, ён распыляецца на тысячы хвілін сваёй гісторыі" (Lumen Fidei, 13). Магчыма, і гэта нам знаёма: раздрабленне на тысячы памкненняў, якія часам цягнуць у супрацьлеглыя бакі.

Па праўдзе, ніхто не зможа зрабіць ні кроку ў добрым кірунку, калі будзе разлічваць толькі на сябе. Бог кліча кожнага да жыцця ў веры, і гэта цалкам Яго дзеянне і праца. Бог адкідае "пыхлівых сэрцам", якія хваляцца, што могуць самі і дайсці, і дасягнуць, і заслужыць. Тым не менш (яшчэ раз вернемся да прыпавесці) дае чалавеку ўсё, але чакае яго ўдзелу. Выказванне "складзеныя рукі працы не зробяць" справядліва нароўні з "без Мяне нічога не можаце зрабіць" (Ян 15, 5). Парадаксальна – як дзеянні могуць адначасова быць маімі і цалкам Божымі? Розум няздольны ахапіць гэта, хіба што ў тэорыі, тады як пыха будзе трымацца да апошняга, каб палічыць хоць штосьці ўласным дасягненнем.

Нашмат важней за нашы незразуменне і трывогі – давер і адвага. Можна не баяцца, бо канчатковы вынік намаганняў залежыць ад Бога. І ўсё ж працаваць трэба ў трымценні, ведаючы сябе, сваю недасканаласць і слабасць. Насамрэч у хрысціянстве хапае супрацьлегласцей. Напрыклад, "хто хоча сваё жыццё ўратаваць, загубіць яго" (Мк 8, 35), – гаворыць Езус, які сам ёсць сапраўдным Богам і сапраўдным Чалавекам. Як заўважыў англійскі пісьменнік і апалагет хрысціянства Гілберт Кіт Чэстэртан, "чысты белы колер стаіць побач з чыстым чырвоным, не апускаючыся да бледна-ружовага кампрамісу".

Таму, жадаючы нешта асягнуць ці выправіць недахопы, вытрываць у прынятым рашэнні ці зрабіць штосьці іншае, згоднае з Божай воляй, мы ўваходзім у гэтую парадаксальнасць. Яна, дарэчы, можа запаволіць нашы крокі. А. Леанард Боўз SJ у сваёй кнізе "На парозе" прапанаваў незвычайны вобраз, які дапамагае захоўваць раўнавагу: "Калі хочаш, мы ідзём па вузкім мосце праз жахлівую прорву, рызыкуючы сарвацца як з аднаго боку, так і з другога. Таму, падняўшы галовы і гледзячы на далёкі бераг, мы павінны ісці проста пасярэдзіне моста. Праца наша, таму мусім быць нястомнымі ў высілках, робячы так, нібы ўсё залежыць ад нас саміх. І яна Божая, таму можам быць перакананымі ў перамозе, спакойнымі, нібы бітва ўжо выйграна, і поўнымі даверу, нібы ўсё залежыць выключна ад Бога".

Аб чым гавораць нашыя жаданні? У якіх з іх гучыць Божы голас і запрашэнне?

*Тэрэса Клімовіч*




*Кл. Яўген Абрамаў, алюмн IV курса Гродзенскай ВДС*
*Паходзіць з парафіі Святой Сям'і ў Лідзе*

# Быць верным Богу да канца!

**"Будзь Яму верны, і Ён зоймецца табою, раўняй свае сцежкі і Яму даверся" (Сір 2, 6). Лічу, што трэба заўсёды давяраць Богу: як хрысціянін, як клерык, як святар. І тады Стварыцель прывядзе цябе, куды трэба.**

### ПРА ПАКЛІКАННЕ

Як распавядае мама, я марыў быць каля Пана Езуса з самага дзяцінства. "Не буду сядзець з табой у лаўках, а буду там", – паўтараў я і паказваў на алтар.

Ішлі гады. І пасля Першай св. Камуніі я пачаў служыць міністрантам. Неўзабаве пасля прыняцця сакраманту канфірмацыі стаў задумвацца аб сваім пакліканні, аб тым, каб пайсці ў духоўную семінарыю. Маё жаданне падмацоўвалі добрыя прыклады святароў, якія заўсёды былі перад вачыма.

У 11 классе я паехаў у семінарыю на рэкалекцыі па распазнанні паклікання. Акунуўся ў атмасферу, што панавала сярод клерыкаў. Вельмі добра перажыў гэтыя духоўныя практыкаванні, падчас якіх упэўніўся ў сваім пакліканні. У 2014 годзе паступіў на І курс Гродзенскай ВДС.

### ПРА СЕМІНАРЫЮ

Семінарыя рыхтуе нас, алюмнаў, да служэння, перш за ўсё, Богу і людзям. Акрамя гэтага, тут мы паглыбляем асабістыя адносіны з Богам, з братамі. Лекцыі дазваляюць пазнаць Касцёл, у якім мы хутка будзем служыць святарамі, яго навуку.

Галоўная задача ў семінарыйным жыцці – давяраць усе свае справы, цяжкасці, крызісы Стварыцелю, здзяйсняць Яго волю: не тое, што хочацца мне, але што хоча ад мяне Айцец, тое, што Ён для мяне падрыхтаваў.

### ПРА ЦЯЖКАСЦІ

Падчас фармацыі ў семінарыі я яшчэ больш глыбока ўсвядоміў, што без Божай ласкі немагчыма пераадолець розныя клопаты, перамагчы складаныя моманты. Але хачу заўважыць: усё, што здаецца няпростым, толькі ўмацоўвае ў пакліканні. Таму шматлікія цяжкасці, якія сустракаюцца на шляху да святарства, я з даверам аддаю ў рукі Бога.

Як гаворыць у Святым Пісанні апостал Павел, "усё магу ў Тым, хто мяне ўмацняе" (Флп 4, 13). Вельмі ўдзячны Усявышняму, што падтрымлівае мяне на абранай дарозе жыцця.

### ПРА СВЯТАРСТВА

Святарства – гэта вялікі Божы дар для ўсіх людзей, таму што дзякуючы пакліканым да святарства мы маем магчымасць сустракацца з жывым і сапраўдным Богам, а нават больш – можам прыняць Яго ў сваё сэрца.

### ДУМАЮ, ШТО...

Сёння нямала тых, хто стаіць перад выбарам жыццёвага шляху і чуе заклік ад Бога пайсці служыць на Яго ніву. Хацеў бы скіраваць некалькі слоў да маладых людзей, каб не баяліся адкрыць свае сэрцы на гэты голас, не баяліся даверыцца Богу, Яго провіду і адказаць на сумненні "так". Бо сапраўды многа пакліканых, але мала выбраных. І яшчэ менш тых, хто адказвае на Божае запрашэнне.

Дарагая Моладзь! Жадаю, каб Вы знайшлі сябе ў жыцці, каб шлях, які выбераце, быў згодны з Божай воляй. Толькі тады зможаце быць па-сапраўднаму шчаслівымі. Няхай Вам у гэтым дапаможа Найсвяцейшая Маці і ўсе святыя.

## НАВІНЫ



### ЮБІЛЕЙ ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНАГА ХОРУ

У дзень літургічнага ўспаміну св. Цэцыліі, апякункі касцёльнай музыкі, у катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя ў Гродне адбыўся святочны канцэрт дыяцэзіяльнага хору “Cantate Domino”. У гэты дзень харысты дзякавалі Богу за 20 гадоў існавання калектыву і магчымасць несці людзям праз спеў святло любові Хрыста.

Юбілейныя ўрачыстасці распачаліся св. Імшой, якую ўзначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч. На Эўхарыстыі прысутнічалі Генеральны вікарый Гродзенскай дыяцэзіі кс. бп Юзаф Станеўскі, духоўныя асобы і шматлікія жыхары горада над Нёманам. Пасля кожны ўдзельнік хору, а таксама тыя, хто належаў да яго раней, атрымалі з рук ардынарыя спецыяльную падзяку за ўклад у развіццё Касцёла на Гродзеншчыне і пастырскае благаслаўленне.

Хор “Cantate Domino” заснаваны ў 1999 годзе ў гродзенскай парафіі Божай Міласэрнасці. За гэты час ён даў незлічоную колькасць канцэртаў у Беларусі і за мяжой. Рэпертуар калектыву складаецца са спеваў на ўсе літургічныя перыяды і ўключае ў сябе больш за 200 сачыненняў вядомых кампазітараў. Творы выконваюцца на 5-ці мовах: польскай, беларускай, рускай, лацінскай і італьянскай.

### ВЫШЭЙШАЯ ДУХОЎНАЯ СЕМІНАРЫЯ



Ва ўрачыстасць Езуса Хрыста, Валадара Сусвету, клерыкі Гродзенскай ВДС наведалі некаторыя парафіі. У гэты дзень ва ўсіх святынях дыяцэзіі складалі ахвяраванні на ўтрыманне духоўна-навучальнай установы. Падчас сустрэчы з вернікамі семінарысты дзяліліся сваім сведчаннем веры, дзякавалі за малітвы ў іх інтэнцыі, а таксама за матэрыяльную падтрымку.

### ДАБРАЧЫННАЕ ТАВАРЫСТВА “КАРЫТАС”




Традыцыйна перад святамі Божага Нараджэння дыяцэзіяльнае “Карытас” распачало штогадовую дабрачынную акцыю “Калядная свечка”. Сабраныя сродкі будуць накіраваны на дапамогу патрабуючым: сіротам, дзецям з малазабяспечаных і шматдзетных сем’яў, маладым людзям з інваліднасцю.

### КУЛЬТУРНЫЯ ПАДЗЕІ



Пры парафіі св. Міхала Арханёла ў Навагрудку прайшла музычная майстэрня касцёльнага спеву для дарослых. Дзякуючы грунтоўнай і напружанай працы ўдзельнікі мелі магчымасць засвоіць 4 лацінскія грыгарыянскія спевы. Плёнам майстэрні стала падрыхтоўка спеву для нядзельнай св. Імшы.

### ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫЯ ДУШПАСТЫРСТВЫ



Прадстаўнікі Душпастырства чыгуначнікаў Гродзенскай дыяцэзіі на чале з душпастырам а. Эдуардам Пяцельчыцам CSsR прынялі ўдзел у XXXVI Пілігрымцы чыгуначнікаў на Ясную Гару (Польшча). З нагоды літургічнага ўспаміну св. Кацярыны Александрыйскай, заступніцы супольнасці, члены душпастырства сустрэліся ў парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне. Напачатку адбылася ўрачыстая св. Імша, а пасля прысутныя супольна памаліліся перад фігурай св. Кацярыны, якая ўстаноўлена побач са святыняй. У гэты дзень там была закладзена алея св. Кацярыны, дзе члены душпастырства высадзілі 20 туй.

### АДНЫМ РАДКОМ

• Дзіцячы хор “Misterium” з гродзенскай парафіі Маці Божай Анёльскай выступіў з канцэртам у гарадскім хоспісе. • Фармацыйная сустрэча маладых святароў адбылася ў Навагрудку. • Сустрэча манаскіх сясцёр, якія служаць у дыяцэзіі, прайшла ў Гродне. • У Смаргоні з нагоды Сусветнага дня бедных адзначылі свята пад назвай “Кавалак хлеба = кавалак неба”. • Арганізацыйны камітэт абмеркаваў пытанне развіцця санктуарыя ў Тракелях (дэканат Радунь). • Сёстры ядзвіжанкі правялі дзень засяроджання для дзяўчат у Гродне. • У літургічную службу алтара гродзенскай парафіі Святога Духа прыняты новыя міністранты. • Вернікі з Іўя здзейснілі пілігрымку ў Вільнюс (Літва). • Дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Юрый Касабуцкі на заканчэнне 40-гадзіннага набажэнства наведаў парафію Жалудок (дэканат Шчучын).

*Агляд навін падрыхтаваны на падставе інтэрнэт-старонкі **grodnensis.by**.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**9 снежня 1942 г.** – кс. Ян Селевіч, *проб. Варняны;*
**9 снежня 1958 г.** – кс. Ян Славінскі, *проб. Поразава;*
**13 снежня 1997 г.** – кс. Юзаф Рагінскі, *проб. Лаздуны;*
**14 снежня 2006 г.** – кс. прэлат Мар’ян Шчэнсны, *праф. Гродзенскай ВДС.*

## АНОНСЫ

### МАЛІТВА Ў ДУХУ ТЭЗЭ АРГАНІЗУЕЦЦА Ў ГРОДНЕ

**Сустрэчы прыхільнікаў ідэі хрысціянскага адзінства праходзяць у касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі (пабрыгіцкі) кожную 3-юю нядзелю месяца пасля св. Імшы а 19-ай гадзіне.**

Малітоўныя спатканні з’яўляюцца знакам адкрытай і гасціннай супольнасці вернікаў. Праводзяцца з мэтай перааддолення бар’ераў паміж суседзямі, культурнымі і этнічнымі групамі, людзьмі розных вызнанняў.

*Да ўдзелу ў малітве ў духу Тэзэ запрашаюцца ўсе жадаючыя.*

### УДЗЕЛЬНІКІ ПІЛІГРЫМКІ ГРОДНА – РОСЬ І ВАЛАНЦЁРЫ ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНАГА ДНЯ ДЗІЦЯЦІ ЗАПРАШАЮЦЦА НА АПЛАТКАВУЮ СУСТРЭЧУ

**Спатканне адбудзецца 26 снежня ў гродзенскай парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі (мікрараён Паўднёвы).**

19.00 – св. Імша ў інтэнцыі ўдзельнікаў пілігрымкі, валанцёраў і ахвярадаўцаў;
20.00 – дзяленне аплаткай, салодкі пачастунак у дольным касцёле.

У праграме сустрэчы запланавана віншавальная частка з нагоды свят Божага Нараджэння і спеў калядак.

*Падрабязная інфармацыя па тэлефоне: (8 029) 784-05-72, кс. Юрый Марціновіч.*

### У ГРОДНЕ ПРАХОДЗЯЦЬ ФАРМАЦЫЙНЫЯ СУСТРЭЧЫ ШКАПЛЕРНАГА БРАЦТВА

**Яны адбудуцца ў парафіях Найсвяцейшага Адкупіцеля (Дзевятоўка) і Маці Божай Вастрабрамскай (Аўгустовак), 4 студзеня, 1 лютага, 7 сакавіка, 4 красавіка, 2 мая і 6 чэрвеня.**

Айцы кармэліты, якія праводзяць гэтыя сустрэчы, запрашаюць усіх, хто носіць святы шкаплер Марыі з гары Кармэль, а таксама ўсіх, хто цікавіцца кармэліцкай духоўнасцю і прагне наследаваць цноты Маці Божай у сваім штодзённым жыцці. Заахвочваюцца і жадаючыя атрымаць шкаплер з рук айцоў кармэлітаў, што можна зрабіць падчас кожнай сустрэчы.

*Больш падрабязную інфармацыю можна атрымаць па тэлефоне: (8 044) 589-68-98 – а. Аляксандр Стока OCD.*

### ПАРАФІЯ Ў ВАЎКАВЫСКУ ЗАПРАШАЕ Ў ПІЛІГРЫМКІ Ў СВЯТУЮ ЗЯМЛЮ, ГРЭЦЫЮ І ІТАЛІЮ

**Паломніцтва па Святой Зямлі адбудзецца з 26 красавіка па 3 мая 2020 года**
У яго межах можна будзе наведаць святыя месцы і санктуарыі, звязаныя з зямным жыццём Езуса, Марыі і апосталаў.

**Аўтобусная пілігрымка ў Грэцыю запланавана на 15–24 чэрвеня 2020 года.**
Маршрут пралягае праз Белград, Салонікі, Афіны, старажытныя Мікены, Алімп.

**Аўтобуснае паломніцтва ў Італію будзе трываць з 30 жніўня па 6 верасня 2020 года.**
У праграме: наведванне Мілана, Венецыі, Падуі, Рыма, Асізі і іншых месцаў, звязаных з жыццём святых.

*Атрымаць падрабязную інфармацыю і запісацца можна па тэлефоне: (8 029) 313-65-64 – кс. канонік Алег Дуль, пробашч парафіі св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску.*

## Каляндар падзей

***8 снежня***
*II Нядзеля Адвэнту.*
*Дыяцэзіяльны дзень малітвы за ўсіх дабрачынцаў Касцёла.*

***9 снежня***
*Урачыстасць Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі.*

***13 снежня***
*Успамін св. Луцыі, панны і мучаніцы.*

***14 снежня***
*Успамін св. Яна ад Крыжа, прэзбітэра і доктара Касцёла.*

***15 снежня***
*III Нядзеля Адвэнту.*

***18, 20, 21 снежня***
*Квартальныя дні малітвы аб хрысціянскім жыцці ў сем’ях.*
*Молімся за сем’і і асоб, якія рыхтуюцца прыняць сакрамант сужэнства.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Снежань***
*Аб дары здаровай набожнасці і вернасці хрысціянскім традыцыям у сем’ях.*
*Аб шчодрым духоўным плёне Дыяцэзіяльнага сінода.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***“Голас Евангелля”***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім.*
*Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале “Культура” Беларускага радыё.*

***Інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі grodnensis.by***
*Асвятленне падзей з жыцця Касцёла на Гродзеншчыне. Даступны фота- і відэаматэрыялы.*

# Праўдзівая гісторыя пра св. Мікалая



*Гэта было даўно. У пэўным горадзе жыла багатая сямейная пара, якая не мела дзяцей. Яна доўга і аддана малілася аб дары патомства. Нарэшце Бог выслухаў гарачую просьбу сужэнцаў, і ў іх нарадзіўся сын, якому надалі імя Мікалай.*

*Хлопец падрастаў добрым і ветлівым. Аднойчы ён выбраўся на пікнік. Па дарозе сустрэў двух дзяцей: яны былі сумнымі і галоднымі. Мікалай вырашыў пачаставаць малых сваімі бутэрбродамі, але напалоханыя дзеці ўцяклі. Тады хлопец скеміў падкінуць ім ежу. Паставіў кошык на парогу хаткі і схаваўся ў кустах. Калі ўбачыў, з якім задавальненнем дзеці ўплялі бутэрброды, адчуў вялікую радасць. З таго часу беднякі пачалі расказваць адзін аднаму пра анёла, які прыносіць ежу. Аднак ніхто яго не бачыў.*

*Мікалай вырас мудрым маладым чалавекам. Пасля смерці бацькоў ён пастанавіў адправіцца да свайго дзядзькі, які быў біскупам Міры. Прадаўшы амаль усю маёмасць, Мікалай раздаў грошы патрабуючым. Пакінуў сабе толькі на падарожжа. Аднак дабраўшыся на месца, даведаўся, што дзядзька памёр.*

*Жыхары Міры мусілі выбраць новага біскупа, але не маглі дамовіцца паміж сабою. Таму вырашылі аддаць справу Божаму Провіду. "Няхай біскупам стане той, хто першым увойдзе ў святыню", – сказаў хтосьці з жыхароў. Калі раніцай людзі накіраваліся ў касцёл, засталі там Мікалая, які маліўся. Яму і было прапанавана ўзначаліць мясцовую супольнасць. Маладзён прыняў гэтую годнасць і гонар, але адначасова і вялікую адказнасць. З часам ён вельмі палюбіўся вернікам за сваю працавітасць і міласэрнасць.*

*Памятаючы радасць убогіх, якім дапамагаў, малады чалавек працягваў падкідваць бедным тое, чаго патрабавалі. Людзі зноў загаварылі пра добрага анёла. Адна дзяўчынка моцна захацела ўбачыць чароўную істоту. Яе малітву ў касцёле пачуў біскуп Мікалай. Калі спытаўся, аб чым просіць анёла, тая адказала: "Ой, гэта такая дробязь. Не ведаю, ці магу турбаваць гэтым… Мне хацелася б мець хаця б адну цацку. Ніколі не мела ніводнай". На што ён усміхнуўся і кіўнуў галавой.*

*Вечарам перад сном дзяўчынка марыла аб тым, каб убачыць анёла, які прынясе ёй ляльку. Схапілася пасярод ночы, бо пачула нейкі шум. Убачыла, што нешта ўпала ў пакой праз фортку. Падбегла да акна і заўважыла за шыбай постаць у плашчы і капюшоне, якая хутка аддалялася. Дзяўчынка саскочыла на зямлю і басанож пабегла за таямнічай асобай. Хутка аказалася перад касцёлам. Постаць знікла ўнутры. Дзяўчынка заўважыла на зямлі гузік і падняла яго. Вырашыла пакінуць сабе як напамін аб гэтым здарэнні.*

*На наступны дзень дзяўчынка накіравалася ў святыню, каб падзякаваць Богу за атрыманы падарунак. Мела з сабой новую ляльку і знойдзены гузік. Якраз тады міма праходзіў біскуп Мікалай. Дзяўчынка заўважыла, што на яго ўборы не хапае гузіка.*

*– Ой, біскуп! У мяне твой гузік! – усклікнула ўзбуджана. – Гэта ты…*

*– Чшш! Не кажы нікому. Гэта будзе наша таямніца, – перабіў яе біскуп Мікалай.*

*Дзяўчынка згодна кіўнула.*

*Пасля многіх гадоў сваёй дзейнасці – як публічнай, так і ўтоенай, у якасці ціхага дабрачынца і апекуна ўбогіх – біскуп Мікалай памёр. Людзі яшчэ доўга ўзгадвалі пра яго добрае сэрца, сціпласць і чуллівасць. Ні ў кага не было сумненняў, што біскуп Мікалай быў святым чалавекам.*

*Мінулі сотні гадоў, а 6 снежня, у гадавіну яго смерці, дзеці і дарослыя і надалей знаходзяць дробныя падарункі, якія вельмі цешаць. Існуе павер'е, што іх прыносіць усё той жа добры анёл…*

## Ад шчырага сэрца

**Паважанаму Айцу Вальдэмару Слоту**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: шчодрых Божых ласкаў і толькі радасных хвілін. Будзьце святаром паводле сэрца Езуса. Будзьце мудрым і святым. За тое, што абвяшчаеце людзям Божую навуку, што ў Яго імя нам прабачаеце, што ўдзяляеце нам Яго Цела, няхай Хрыстос прытуліць Вас з любові да свайго сэрца, а мы падтрымаем у малітве. Няхай Ваша жыццё будзе згоднае з думкамі і пачуццямі Найсвяцейшага Сэрца Езуса, а пра астатняе Ён сам паклапоціцца.

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Вялікай Бераставіцы*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яўгену Учкуронісу**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, Божага благаслаўлення і зычлівасці ад парафіян. Няхай Вам заўсёды спадарожнічае любоў Пана, Святы Дух адорвае сваімі дарамі, а Найсвяцейшая Маці дадае сіл, цярплівасці і стойкасці. Няхай св. Ян Павел II выпрошвае для Вас у Езуса і Марыі ўсе неабходныя ласкі ў нялёгкай справе пабудовы нашай святыні, а таксама ўменне пераадольваць штодзённыя праблемы. Нізкі Вам паклон за шчырасць, дабрыню, мудрыя і добрыя словы, за адкрытасць і Вашу прыемную ўсмешку. Аддзяч, Божа!

*З памяццю ў малітве апостальства "Маргарытка" з парафіі св. Яна Паўла II у Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яўгену Учкуронісу**

з нагоды юбілею складаем букет сардэчных віншаванняў. Няхай здароўе будзе моцным, творчыя сілы – бясконцымі, а радасць ад плёну працы – штодзённай. Няхай Вас заўсёды асвятляюць прамяні Божай міласэрнасці, моц Святога Духа і апека Панны Марыі, Езус валадарыць у сэрцы і адорвае сваімі ласкамі, а святы Заступнік нястомна апекуецца Вамі. Вельмі ўдзячныя за шчырыя малітвы, павучальныя казанні, зычлівасць, дабрыню, сціпласць, цярплівасць, цудоўную ўсмешку, а таксма за клопат пра людзей і касцёл. Дзякуем за тое, што вучыце нас любіць Бога і бліжняга, а Вашай маме – за сына святара.

*З удзячнасцю і павагай вернікі з парафіі св. Яна Паўла II у Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Раману Ялоўчыку**

з нагоды 19-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў ад усяго сэрца жадаем Божага бласлаўлення і міласэрнасці. Няхай Святы Дух асвячае сваім святлом Ваш святарскі шлях, а Маці Божая нястомна апекуецца і атуляе плашчом сваёй любові.

*З памяццю ў малітве вернікі з парафіі св. Міхала Арханёла ў Гнезне*

**Паважанай Сястры Антоніі Шэйгерэвіч**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя віншаванні. Няхай усемагутны Бог ахіне Вас сваёй міласэрнасцю і дабрынёй, адорыць супакоем і моцным здароўем. Маці Божая няхай абараняе ад усялякіх нягод і нястомна трымае ў сваёй апецы. Жадаем таксама здзяйснення мар і добразычлівых людзей побач. Шчасці Божа!

*Парафіяне з Поразава*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Радзевічу**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем здароўя, душэўнага супакою, аптымізму, зычлівасці ад людзей, а таксама Божага бласлаўлення і апекі святога Заступніка на кожны дзень.

*Ружанцовыя Колы, члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам і парафіяне з Радуні*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Кузьмічу**

сардэчна дзякуем за 10 гадоў паслугі ў нашай парафіі. Бог узнагародзіў Вас шматлікімі дарамі, але найбольшы з іх – чулае і адкрытае сэрца. Многія людзі, якім пашанцавала пазнаёміцца з Вамі, акрамя добрага сябра і мудрага дарадчыка атрымалі чалавека, які няспынна ўзносіць малітвы за іх да Бога. Ад усяго сэрца дзякуем Вам за святло душы, за малітву, веру, набожнасць, за тое, што цягам гэтых 10-ці гадоў Вы дзеліце з намі нашы няўдачы і перамогі, разам з намі радуецеся і сумуеце. Вы вучыце нас слухаць Бога, штодзённа жыць Божай ласкай, дапамагаеце ў складаных жыццёвых сітуацыях. Жадаем Вам здароўя і сілы ад Бога Айца, прамяністага сэрца ад Езуса Хрыста, мудрасці і ўмення ад Святога Духа, ласкавасці і цярплівасці ад Маці Божай.

*З малітвай і павагай жыхары в. Мацюкі*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Руслану Мазану**

з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні. Няхай кожны дзень жыцця і святарскай паслугі будзе бласлаўлёны і шчаслівы, Бог адорвае здароўем і заўсёды падтрымлівае ў складаных хвілінах. Няхай Бог Айцец, Святы Дух, Божы Сын і Яго Найсвяцейшая Маці ахінаюць сваёй нястомнай апекай. Дзякуем за святарскае служэнне.

*Францішканскі ордэн свецкіх з Вялікіх Эйсмантаў*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Паўлюкевічу**

з нагоды Дня нараджэння і надыходзячых свят Божага Нараджэння складаем самыя сардэчныя пажаданні: Божага бласлаўлення на кожны дзень святарскай паслугі, апекі Найсвяцейшай Маці, шчодрых дароў Святога Духа. Няхай здароўе, радасць і спакой ніколі Вас не пакідаюць.

*Вернікі з Барунаў*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Рудзевічу**

з нагоды 12-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў жадаем шчодрых Божых ласкаў, дароў Святога Духа, апекі Маці Божай, стойкасці на святарскім шляху, добрага здароўя, моцнай веры і зычлівых парафіян. Няхай Бог Цябе бласлаўляе!

*Мама, брат Дзмітрый і брат Генрых з сям'ёй*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;** заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** тэл. **(80152) 75-64-38; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: slowo.grodnensis@gmail.com; **http://www.slowo.grodnensis.by.** Тэхнічны рэдактар – Юрый Лавыш.
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 ад 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 5586; тыраж 5045; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты. Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная